№ 9-10 [12-13]

ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любою да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

| Цана нумару 30 фр. | Адрыс радакцыі: Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6). Chèque Postal : Paris c. 628744. | Падпісная цана на год 300 фр. |
| --- | --- | --- |

# Набалелае пытаньне

Набалелым пытаньнем сёньня даводзіцца назваць пытаньне міру і супакою на сьвеце. Розныя вынахады, якія маглі-б аблягчыць людзкое жыцьцё памнажаюцца з дня на дзень, але на жаль самае жыцьцё стае што раз больш няпэўным. Бо аднačасна з вынахадамі самаходаў, самалётаў. тэлефонаў, радыя і т. п. вынайдзена мадэрныя спосабы шарлатанства, хлусьні, штучнае прадукаваньне «народнае волі» і т. п. У выніку паўстала нячуванае дагэтуль самавынішчэньне людзей людзьмі, старэйшых памятак культуры навейшымі вынахадамі і пагроза яшчэ горшага зьнішчэньня.

З абману і хлусьні мусіў нарадзіцца агульны недавер, а з недаверу страх. Страх усіх супраць усіх. Дзесяткі мільёнаў штыкоў сьцерагуць дзяржаўныя межы, тысячы азброеных старажоў ахараняюць дзяржаўныя ўстановы, тысячы сочаць за народам. Адна нацыя мае страх перад другою. Народ баіцца свае ўлады, а ўлада — народу.

У гэтай агульнай няпэўнасьці на старонках кнігаў і газэтаў штораз часьцей сустракаецца слова мір, але міру, як ня было так і няма. Паўтараюцца сумныя часы прарока Ерэміі, тады так-жа былі людзі, якія «паўтаралі мір, мір і ня было міру» (Ер. 6. 14). Бо калі здаровая душа чалавека жадае міру, дык злачынцы і недаверкі ані самі міру ня маюць, ані іншым не даюць супакою. «Для нягодных няма супакою, кажа Госпад» (Ісаія 57, 20). Гэта асбліва яскрава відаць у тых дзяржавах, дзе масава адступаюць ад Бога, дзе пачынаюць з Ім змагацца. Там дзе сьвятыні пустуюць — турмы перапоўнены. Бяз Бога асягнуць мір нельга. Чалавецтва бяз Бога падобна да судзіны бяз дна — колькі і чым не напаўняй яе — заўсёды будзе парожнаю.

Каб асьведаміць людзей аб гэтай асноўнай праўдзе людзкога жыцьця і прыходзіў на сьвет Ісус Хрыстос. Падчас Яго нараджаньня ангелы пяялі: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір людзям добрае волі» (Лук. 2, 13). Сам Хрыстос выпраўляючы апосталаў, казаў ім: «Куды ўвойдзеце, вітайцеся кажучы: мір дому гэтаму» (Мат. 10, 12). Калі Хрыстос меўся адыйсьці на мукі, дык у разьвітальным слове да апосталаў казаў: «Мір мой пакідаю вам. мір мой даю вам, ня так як сьвет, Я даю вам, няхай ня сумняецца сэрца ваша і не баіцца» (Ів. 14, 27). Але гэты мір ня ёсьць нечым накіненым звонку, не! ён у першую чаргу ёсьць мірам нутраным і асноўваецца на тым новым прыказаньні Хрыста, аб якім Ён гаварыў у разьвітальным слове з такім націскам: «Даю вам новае прыказаньне, каб любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас, так і вы любеце адзін аднаго» (Ів. 13, 34).

Гэткая любоў стварае запраўдным мір бяз страху, бяз трывогі. «Страху няма ў любові, але дасканалая любоў вон выганяе страх, бо ў страху ёсьць мучэньне» (І Ів. 4, 18).

Значыць справа міру і супакою ня ёсьць нечым безнадзейным, але трэба яго шукаць у той крыніцы, дзе яго можна знайсьці.

Ані ў хлусьні, ані ў насільстве, ані ў хітрась-

ці, ані тымбольш у злачынствах ніколі ня было і ня будзе міру. «У абліччы грахоў маіх няма, супакою косьцям маім» (Пс. 37, 4) кажа псальмапевец.

Ніякае аружжа і сіла не забясьпечыць міру, калі яго перш ня будзе ў душы і сэрцы чалавека. А душа і сэрца чалавека ніколі ня будуць спакойным, пакуль ня будуць мець таго, чаго яны найбольш жадаюць — шчырае любові. Ніякім зьмысловым каханьнем ці іншым падманам нельга заспакоіць гэтага сьвятога жаданьня любові. На вялікі жаль замала аб ёй гаворыцца і яшчэ менш яе практыкуецца, не зважаючы на прыказаньне Хрыста і Ягоны прыклад.

Магчыма таму й забываюцца людзі, забываемся мы, аб сіле любові, што часьцей у сучасным жыцьці прыходзіцца бачыць гнеў, глядзець на яго сілу і мімаволі з ёю рахавацца. Запраўды, вялікая сіла гневу, але бязьмерна большая сіла любові, бо сіла гневу здольная толькі руйнаваць, а сіла любові здольная тварыць і будаваць. Глыбока пранікае сіла гневу, але яшчэ глыбей пранікае любоў — няма такое істоты, якая-б была нячулая на любоў.

Ува ўсіх Божых творах ёсьць заўсёды захаваная хоць дробная Боская іскра, і гэтаю іскраю ёсьць любоў. Паводля фізычнага права рэзанансу (водгульля), як гукнеш у лес, так адгукнецца з лесу. Скажы хоць адно слова ў памешканьні, дзе ёсьць музычныя інструманты — зараз-жа адгукнецца адпаведна да твайго голасу некая струна. У душы чалавека ёсьць так-жа розныя «струны»; ёсьць струны гневу, але ёсьць так-жа чудовыя струны любові і закрануць іх можна ня гневам, ня грубаю сілаю, але шчыраю любоўю. Калі дзіця ўсьміхаецца да цябе сваім нявінным, шчырым сьмехам, дык ці не адкажаш яму такою-ж шчыраю ўсьмешкаю, хоць-бы ты быў нават найбольш злосны?

Няма такога каменнага сэрца, якога-б не закранула за жывое шчырая любоў. Калі сьв. Вінцесь з Паўлі распачаў сваю ахвярную дабрадзейную працу, дык нават найгоршыя бязбожнікі пачалі адносіцца да яго з пашанаю. Нават дзікія зьвяры і тыя ўлягаюць сіле любові.

У старых рымскіх гісторыях знайходзіцца цікавае апавяданьне аб адным нявольніку, які быў уцёк з няволі і схаваўся ў нейкай пячоры ў недалёкай пустыні. Але вось чуе, няшчасны, што ў гэтую пячору йдзе разьюшаны леў, страшэнна рыкаючы, і накіроўваецца проста да яго. Калі леў быў ужо зусім блізка, нявольнік заўважыў, што зьвер рыкаў ад болю, бо ў аднэй ягонай лапе была вялікая цярніна. Тады нявольнік падыйшоў да льва, узяў ягоную параненую лапу, выцягнуў цярніну і, адарваўшы кавалак свае кашулі, перавязаў яму рану. І гэта запрыязьніла іх. Ад гэтага часу жылі яны разам у тэй пячоры. Але аднаго дня леў не вярнуўся ў пячору. Праз нейкі час злавілі нявольніка, пазналі яго і адправілі на суд у Рым. Там яго прысудзілі аддаць дзікім зьвяром. Няшчаснага вывелі на арэну і выпусьцілі раззлаванага галоднаго льва. Зьвер кінуўся на сваю ахвяру, але раптам драпежны зор льва зьмяніўся; леў на хвіліну стрымаўся, прыглянуўся да нявольніка і раптам прылёг да пяску, паўзком прылез да ног нявольніка і пачаў лізаць іх. Анямелі глядачы, астаўбянелі жадныя крыві іхнія вочы, гледзючы на незразумелае зьявішча. А леў і нявольнік — два старыя сябры з пустыні прыпадкам спаткаліся зноў і радасна віталіся. Ні доўгая разлука, ні голад, ні люць не зацерлі іх любові і прыязьні.

Запраўды трэба быць горш лютым за драпежнага зьвера, каб супроцьстаяць сіле любові.

З любові Бог стварыў сьвет; з любові пусьціў на сьвет чалавека. І мэта людзкога жыцьця на зямлі ёсьць: каб навучыцца любіць Бога, нашых бліжніх і сябе самых. Бяз любові людзкая душа будзе заўсёды галоднаю, заўсёды неспакойнаю.

Сучасная мэдыцына ведае розныя хваробы, якія паўстаюць у арганізмах пазбаўленых вітамінаў. Лечаць гэтыя хваробы вельмі проста: даюць хвораму поўнавартасную ежу, у якой знайходзяцца адпаведныя вітаміны. Сучасныя набалелыя грамадзкія пытаньні, закалоты і неспакоі выкліканы так-жа нястачаю здаровае ежы для душы, нястачаю любові. Для іх у сьвятой хрысьціянскай любові ёсьць нявычарпальная крыніца моцы і супакою і толькі там ёсьць лек для збалелае душы сучаснага чалавека. Нельга заступіць яго ніякім падманам-эрзацам.

Сьв. Аўгустын шмат перажыў і перадумаў, пакуль дайшоў да глыбокае праўды: «Неспакойнае маё сэрца, пакуль не спачне ў табе, о Божа!»

**Сьвятар Л.**

# ХРЫСТОС МІЖ НАМІ

Калі Хрыстос меўся адыйсьці з гэтага сьвету, тады ў разьвітальным слове казаў да апосталаў: «Не пакіну вас сіратамі, прыйду да вас» (Ів. 14, 18). І праўда, пасьля ўваскрасеньня Хрыстос зьяўляўся няраз апосталам, але ўвышоўшы на неба, не зьяўляўся больш у целе. А як хацелася-б не аднаму з нас агледаць Яго так, як маглі агледаць Яго Ягоныя сучасьнікі, чуць Ягоныя словы, бачыць цуды...

Але нельга заплюшчваць вочы на сумную праўду, на тое, што сталася з Хрыстом, калі Ён быў на зямлі ў целе. Францішак Багушэвіч у

вершы «Праўда», просячы Бога, каб Хрыстос прыйшоў другі раз на зямлю, не забываецца дадаць: «Прыйдзі бяз цела», каб людзі зноў не расьпялі. —

Але ці-ж Бог ня ведае сваіх твораў? Ён вельмі добра ведае людзей, іхнюю слабасьць і вераломства, але ведае й іхняе імкненьне да дабра, да праўды, дзеля таго не каму іншаму, толькі людзям кажа, што прыйдзе да іх. І не адзін ці другі раз, але заўсёды «дзе двое, ці трое зьбяруцца ў імя Маё, там і Я сярод іх» (Мат. 18, 20).

Дык Хрыстос можа быць і ёсьць сёньня між намі; Ён усюды, дзе Яго ня цураюцца, дзе Яго шукаюць. — Там Хрыстос ёсьць, каб суцяшаць, падтрымоўваць, багаславіць.

Больш таго. Ужо псальмапевец клікаў: «Куды мне йсьці ад духа Твайго, куды ўцячы ад аблічча Твайго? Калі-б я на неба ўзыйшоў, Ты там; калі-б ложам пекла зрабіў, Ты й там! Калі-б крыльлі ў сьвітаньні я ўзяў і на самым канцы мора асеў, рука Твая й там вадзіла-б мяне, і правіца Твая трымала-б мяне» (Пс. 138, 7-10). Дбалы гаспадар нікολі не забываецца аб сваёй ніве; калі каласіста расьце — цешыцца, калі пустазельлем абрастае — сумуе і шукае рады. Туды ён яшчэ часьцей заглядае, каб знайсьці спосаб ратаваць яе, каб не змарнавалася мазалістая праца яго. —

А на беларускай рэлігійнае ніве... Божа, чаго там не заводзілася?! Якога толькі пустазельля не расло?! і вынарадаўляючае, і выкрыўляючае, і зусім атручваючае духовае жыцьцё. Ад розных істаў у душы беларускага народу крывавіць яшчэ не адна рана. Але каля гэткіх душаў Хрыстос стаіць неадступна, бо «не здаровыя патрабуюць лекара, але хворыя» (Лук. 5, 31).

Але ці мала ёсьць людзей, якія ўцякаюць ад Хрыста ў тыя мейсцы, дзе заглушаецца голас Яго? Ці мала ёсьць між намі такіх, што стараюцца схавацца ад Хрыста і замкнуць перад Ім усе дзьверы свае душы і сэрца? Але й іх Хрыстос не пакідае; не адходзіцца ад замкнёных дзьвярэй: «Вось Я стаю пры дзьверах і стукаюся; калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзьверы, Я ўвайду да яго і буду вячэраць з ім, дый ён са Мной» (Апак. 3, 20).

Нябачна ўвайходзіць сёньня Хрыстос, каб такжа нябачна падзяліцца з намі нашым штодзенным хлебам: цярпеньнем і клопатамі, і каб мы маглі ўдзельнічаць на Яго вячэры, дзяліцца Ягоным хлебам асьвячаньня і духовага жыцьця.

Некаторыя, пачуўшы стук Хрыста, ня толькі ахвотна адчыняюць Яму дзьверы, а нават самі шукаюць Яго, але толькі дзеля таго, што спадзяюцца атрымаць ад Яго нейкія дачасныя карысьці. Ведама, што Хрыстос аж два разы насыціў у Палестыне тысячныя грамады сваіх слухачоў, аздараўляў іхніх хворых, дык ці-ж ня можна ад Яго спадзявацца таго самага сёньня? Пэўна што так. Хрыстос-жа запэўніў, што Айцец наш нябесны ведае нашы ўсе патрэбы (Мат. 6, 23) і запраўды няраз відавочна нават і ў цудоўны спосаб здавальняе іх і сёньня, але калі толькі дзеля дачасных патрэбаў шукаем Яго, за гэта нас не пахваліць, але адазвецца яшчэ горш дакорліва чым калісьці да жыдоў: «Запраўды, запраўды кажу вам, шукаеце Мяне не затым, што бачылі цуды, але затым, што елі хлеб і насыціліся; працуйце-ж не дзяля ежы, што зьніштажаецца, але дзеля ежы, што астаецца ў жыцьцё вечнае, якое дасьць вас Сын Чалавечы» (Ів. 6, 26-17).

З гэтаю мэтаю Хрыстос і стараецца неадлучна быць з намі, каб мы ў пошуках за дачаснымі патрэбамі, не забыліся аб вечным жыцьці, аб вечных патрэбах нашае душы. Аб гэтым, і прасіць, і дакучаць Яму, і можна, і трэба. Але перадусім варта памятаць, што Хрыстос усюды з намі і паводзіцца так, каб не засмучаць Яго. Калі госьцім у сябе сваіх дабрых сяброў, ведама, як стараемся ім дагадзіць, а ці-ж найлепшаму нашаму Хрысту, што неадлучна з намі адкажам няўвагаю?

**Манах А.**

# Адзін з сямёх

Сучаснае жыцьцё ў некаторых асяродках сталася на толькі сьвецкім, што там затрачваецца нават найпрасьцейшае паняцьцё грахоўнасьці некаторых учынкаў нават і тады, калі гэтыя ўчынкі ёсьць злачынамі.

Ведаючы добра гэтае сумнае зьявішча, нават некаторыя сьвятары не закранаюць такіх справаў у сваёй душпастырскай дзейнасьці, уважаючы, што іх голас і так будзе голасам гукаючага ў пустыні.

Адным з такіх грахоў, які ў сучасных ненармальных эміграцыйных умовах пашыраецца, як нейкая заразная хвароба, але аб якім найчасьцей, як згаварыўшыся, стараюцца адмоўчвацца, ёсьць грэх нячыстасьці.

Таму аднак, што гэткае маўчаньне некаму можа выдавацца апраўдваючым, або нават служыць прычынаю для прыглушваньня сумленьня, да бястурботнага маральнага ўпадку і да страшэннае духовае руіны, нельга аб ім маўчаць. Гэта тымбольш уважаем неабходным, што на эміграцыі знайшлося нямала моладзі без бацька, бяз маці, нават бяз добрых прыяцялёў — наадварот часта змушаны жыць у няпрыхільным асяродзьдзі і ў

небяспечных спакусьлівых абставінах. Да іх у першую чаргу хацелася-б пераслаць гэтых некалькі шчырых слоў перасьцярогі.

З якога-б гледзішча не зьвяртаць увагу на нячысты грэх, заўсёды прыходзіцца сьцьвердзіць ягоную вялікую руйнацкую дзейнасьць.

Хрысьціянская рэлігія залічае нячысты грэх да сямёх галоўных грахоў. Плоцьныя, нячыстыя грахі ёсьць найбольш агіднаю абразаю Бога. — Гэта за іх Хрыстос мусіў цярпець страшэнную ганьбу і бічаваньне.

Плоцьныя органы Бог прызначыў для размнажэньня людзкога роду. Ім Бог даў частку свае творчае сілы, каб прадаўжаць Ягоны творчы акт, але дзеля гэтага Бог устанавіў сужэнства. Таму ў сужэнстве плоцьныя зносіны ня толькі дазволеныя, але нават зьяўляюцца сужэнскім абавязкам і багаслаўляюцца.

Калі-ж нехта пачынае ўжываць свае плоцьныя члены да нейкіх іншых мэтаў, да дабра ня дойдзе. І запраўды з гэтага паўстае распуста якая вядзе да ганебнага канца тут на зямлі і да вечнае загібелі ў будучым жыцьці.

Калі-б нехта спытаў: як можа быць той самы ўчынак у адных абставінах дазволены і нават багаслаўлёны, а ў іншых забаронены і залічаны да страшных злачынаў? дык няхай гляне толькі навокал сябе і знойдзе гэткіх учынкаў шмат. — Агонь у печы ёсьць багаславенствам для чалавека; ён і грэе, ён і ежу гатуе, а параскідай агонь па хаце — спаліць усё і калі ўпору не ўцячэш, дык і сам згарыш. Нож у руках лекара-хірурга ратуе неадно жыцьцё хворага, а той сам нож у руках катарэзьніка ўгробіць найздаравейшага чалавека. Ці мала атрутных зёлкаў і хэмікаліяў у руках аптэкара пераўтвараюцца ў надзейныя лекі, а тыя самыя рэчы ў руках злачынца прычыняюцца да нязьлічаных няшчасьцяў. Такі парадак на сьвеце і на тое Бог даў чалавеку розум і волю, каб з іх карыстаць паводля Яго сьвятое волі.

З гледзішча духовага жыцьця распуста зьяўляецца жаралом страшэннага ўпадку.

Таму, хто думае толькі аб плоцьных зносінах, няма чаго й гаварыць аб нейкіх вышэйшых ідэях, аб любові Бога, бацькаўшчыны, грамадзкай працы, ці агулам аб нейкаю любові. Гэта была-б дарэмная трата часу. Маральна ўпаўшы чалавек так высока ўзьняцца ня можа, — ён марыць толькі аб адным: аб цёмным кутку. Там ён і душою і целам. Замест уздымацца ўверх, ён скочваецца ўніз, і бяда, калі ў час не схамянецца і ня стрымаецца .

З грамадзкага гледзішча нячыстыя грахі зьяўляюцца найбольшымі разбуральнікамі самых асноўных падвалінаў дзяржавы — сямейнага жыцьця. Толькі там і грамада і дзяржава моцныя, дзе сям'я здаровая. А сям'я здаровая там, дзе бацькі ёсьць запраўды чэснымі і чыстымі. Распусьніца ніколі ня здольная чэсна выконваць абавязку маці, хоць і мае магчымасьць пускаць на сьвет дзяцей. Гэтак сама распусьнік ня здольны быць чэсным бацькам.

Калі хто яшчэ не жанаты шукае прыпадкавых зносін, дык няхай перш падумае, ці хацаў-бы ён мець сваею жонкаю такую, у якое ад дзявоцтва і ўспаміну не асталося? Падобнае пытаньне адносіцца і да дзяўчат. А хіба-ж ахвотнікі гэткіх прыпадковых зносінаў ня думаюць аб сваім будучым сямейным вогнішчы? Але няхай-жа яны ведаюць, што нельга спадзявацца цяпла з такога сямейнага вогнішча, дзе сходзяцца людзі, якія раней спалілі ў грахоўных зносінах усе свае лепшыя, інтымныя пачуваньні.

З гісторыі ўсім добра ведама, што ўпадак магутнае Рымскае імпэрыі пачаўся ад раскладу сямейнага жыцьця. Найгоршым ворагам магутнае імпэрыі стаўся нячысты грэх.

З мэдыцынскага гледзішча ведама, што нячыстыя грахі зьяўляюца крыніцаю аднае з трох грамадзкіх хваробаў — францаў. Іншыя вэнэрычныя хваробы, якіх ёсьць нямала, паходзяць з тае самае крыніцы, а гэта хіба найлепшы доказ іхняй шкоднасьці.

Тады калі чыстае і чэснае жыцьцё зьяўляецца найлепшым спосабам, каб захаваць духовую і цялесную бадзёрасьць, дык усякая плоцьная грахоўная нечысьць прычыняецца да пашырэньня агідных хваробаў і да перадчаснае сьмерці. Шмат якія вэнэрычна хворыя людзі азначаюцца ўмысловым атупеньнем (ананісты і хворыя на францы) і нямала з іх вар'яцее. Вэнэрычна хворы чалавек сам сябе гідзіцца і стыдаецца прызнацца да свае хваробы, — ці трэба лепшага доказу шкоднасьці тых грахоўных зносінаў, якія пашыраюць гэткія хваробы?

Усё гэта так, скажа не адзін, але плоцьныя зносіны маюць магутную прынаду — прыемнасьць. Аднак хвілёвая прыемнасьць, якая выклікае па сабе пачуцьцё нясмаку і сьведамасьць правіннасьці, аб якой у чэсным асяродзьдзі сорамна й заікнуцца, ня ёсьць запраўднаю прыемнасьцю. А да таго: ці ёсьць хоць адзін злачын, які ня меў-бы нейкае прыемнасьці? Ці адна атрута мае прыемны смак. Карболаўка саладзейшая за цукар, але ніхто ею стравы не салодзіць. Ды хіба ня ведама, што кожная пастка мае сваю прынаду? Дык якжа нячысты грэх, які ставіць пастку на душу і цела чалавека, каб ня меў прынады? Але нельга заплюшчваць вочы на тое, што за прынадаю крыецца.

Жывёлы ў жыцьці кіруюцца інстынктам; інстынкты асьцерагаюць іх ад небясьпекаў, дапамагаюць знайходзіць пажыву, інстынкт рэгулюе іх плоцьнымі зносінамі так, што яны іх не надужываюць. Чалавеку-ж даны розум, каб ім кіравацца ў жыцьці. І вельмі дрэна канчае той, хто свой

розум аддае на паслугу нізкім інстыктам і плоцьным прыхацям. Гэткі ўпадак страшэнна паніжае чалавека.

На эміграцыі маральны ўпадак утрая шкодны. Акрамя таго, што маральна ўпаўшы гаршыць і сам фізычна гібее, да таго ён пляміць у вачох чужынцаў тонар свайго народу, ды аслабляе й так нешматлікія рады барацьбітоў за лепшую будучыню народу. Таму нячысты грэх эміґранта ёсьць ня толькі грахом супроць Бога, але і злачынам супраць свайго народу. Варта зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу дзеля таго, што вельмі часта маральна ўпаўшыя людзі стараюцца ўцякаць ад рэлігіі, каб заглушыць голас свайго сумленьня і спакойна скочвацца ў бязодню.

Калі каму ўжо трапілася няшчасьце ўпасьці, дык хай паслухае голас Бога, голас народу, голас грамады, і голас свайго сумленьня і чымхутчэй направіць сваю памылку.

# Масква — „трэці Рым“

Захопніцкая дзейнасьць кожнае імпэрыялістычнае дзяржавы апіраецца на нейкай сваеасаблівай філязофіі, якая абґрунтоўвае гэтую дзейнасьць і пабуджае да наступу. Звычайна аднак навонках, яна стараецца прыбраць іншую вопратку, маючую спавід справядлівісьці.

Мы, беларусы, ня раз, і не адзін год, шмат цярпелі ад імпэрыялістычных апэтытаў нашых суседзяў, і сёньня яшчэ наша бацькаўшчына перажывае бадай што найцяжэйшую акупацыю. Сёньняшнія валадары Беларусі стараюцца ўмацаваць сваё панаваньне ня толькі над краем, але і над народнаю душэю. Таму будзе зусім намесным, прыглянуцца з гістарычнага гледзішча да аднае з тых захопніцкіх ідэяў нашага ўсходняга суседа, якая была крыніцаю няшчасьцяў на працягу гісторыі для беларусаў і яшчэ не загінула да сёньня — наадварот, прыбраўшы іншую форму, стае пагрозаю для ўсяго сьвету. Зьмест яе выказваецца адным сказам: Масква — трэці Рым.

Тэорыя аб Маскве — трэцім Рыме пачала складацца ў канцы XV в. і канчаткова афармілася на пачатку XVI в. Да яе паўстаньня прычыніліся два незалежныя ад сябе дзейнікі: упадак Візантыі і амаль адначаснае ўмацаваньне Маскоўшчыны.

Карані гэтае тэорыі трэба шукаць ажна ў дзяржаўна-цэркоўных рэформах Рымскага імпэратара Канстантына Вялікага (274-327). Канстантын В., перамогшы сваіх супернікаў і стаўшы адзіным валадаром аграмаднае імпэрыі, запачаткаваў новую, «боскую» манархію вышэйшую за дзяржаву, якая насупраць рымскім праўным прынцыпам мела быць спадкова-дынастычнаю, і насупраць старым рэспубліканскім праўным прынцыпам мела быць абсалютнаю манархіяю. Вось-жа стары Рым, дзе былі моцна закарэнены гэтыя правы ў традыцыі і дзе да таго яшчэ знайходзіўся такі непахісны аўтарытэт боскага характару—Апостальскі Пасад, усё гэта вельмі абмяжоўвала новы дзяржаўнадынастычны ідэал Канстантына В. Таму ён пастараўся знайсьці для ажыцьцяўленьня свайго ідэалу новую сталіцу ў больш дагодным дзеля тэтага мейсцы. Канстантын скіраваў свой зор на Усход; на той Усход, дзе яшчэ былі жывыя традыцыі вавілонска-сырыйскіх, егіпецкіх і пэрскіх неабмежаваных дэспатаў, якім аддаваўся боскі культ. У сваіх меркаваньнях ён не абмыліўся.

Сталіца Рымскае імпэрыі ў 326 г. пераносіцца ў невялічкае дагэтага часу места над Босфарам—Візантыю, якая на чэсьць яе першага імпэратара пачынае звацца Канстантынопалем. Новая сталіца хутка разрастаецца і адначасна з палітычным ростам пачынае расьці яе аўтарытэт ў рэлігійных справах, з тою аднак характэрнаю рысаю, што рашаючы голас у іх мае сьвецкая ўлада — імпэратар. Гэткім чынам запачатковаецца новая форма ўлады званае цэзаропапізмам у якім імпэратар зьяўляецца неабмежаваным валадаром так у дзяржаўна-палітычных, як і ў царкоўна-рэлігійных справах. З прыцьцем хрысьціянства з Візантыі гэтая дзяржаўная форма паволі прасочваецца ў Маскву. У Візантыі да 326 г. быў звычайны епіскап, падпарадкаваны Іраклійскаму мітрапаліту; цяпер там утвараецца патрыярхат і новы патрыярх хутка уцягваецца ў бурлівы вір закалотаў ды пачынае шукаць сабе пачэснага мейсца між іншымі патрыярхатамі. На другім сусьветнам Саборы (381) Канстантынопальскі патрыярх паводля 3-га канону атрымоўваў першае мейсца пасьля Рымскага патрыярха, таму што «гэты горад ёсьць другім Рымам». На чацьвёртым сусьветным Саборы (451) ужо Візантыйскі патрыярх «новага Рыму» сягае па роўныя правы з старым Рымам, але запраектаваны канон (28) астаецца не пацьверджаным. На гэтым тле (пяршынства і ўлады) даходзіць да паважных непаразуменьняў між Усходняю і Заходняю Цэрквамі і яно стае запраўднаю галоўнаю прычынаю падзелу Сусьветнае Хрыстовае Царквы на Каталіцкую і Праваслаўную ў 1054 г.

Час падзелу Царкоў супадае з вялікаю пагрозаю туркаў на Візантыйскую імпэрыю, таму нічога дзіўнага, што візантыйскія імпэратары ў абліччы гэтае грознае небясьпекі хутка пасьля

падзелу старающца давесьці Цэрквы да паеднаньня, каб з гэтага магчы скарыстаць для ўмацаваньня сваe дзяржавы. Аднак пасеенае імі-ж самымі і паслушнымі ім ерархамі насеньне нязгоды і варожасьці да старога Рыму, было шмат цяжэй выкараніць, чым насадзіць. Бяз ніякіх вынікаў асталіся спробы паеднаньня ў 1073 г. і 1112 г., а нават фармальныя рэлігійныя паеднаньні (уніі) у 1274 г. на Ліёнскім Саборы і ў 1439 г. на Флёрынтыйскім Саборы, хутка разрываліся; напаткаўшы на супраціў варожых да Рыму бальшыні ерархаў.

Для закраненае намі справы. асаблівае значэньне мае Флёрэнтыйскі Сабор, бо на ім акт Уніі поруч візантыйскага імпэратара і Патрыярха падпісаў так-жа мітрапаліт «усяе Русі» Ізыдар разам з дэлегатам ад Маскоўскае Царквы ў асобе суздальскага еп. Авраамія. Аднак як у Візантыі, так і ў Маскоўшчыне ня судзілася ажыцьцявіцца паеднаньню Царкоў. У Візантыі духавенства згуртаванае вакол эфэскага мітр. Марка вытварыла такі варожы да Рыму настрой, што імпэратар Іван VIII Палеолог да канца свайго жыцьця не адважыўся абвесьціць акту Уніі, а ў Маскве Васіль II Цёмны ўвязьніў мітр. Ізыдара, за тое, што на багаслужэньні пачалі памінаць імя папы. На Беларусі і на Украіне гэтая Унія праіснавала яшчэ некі час, але так-жа ня доўга.

Калі троха счакаўшы. пасьля гэтага здарэньня ў 1453 г. туркі занялі Канстантынопаль, дык гэта выклікала надзвычайна глыбокае ўражэньне ў Маскве. «Дзе-ж цяпер цэнтр хрысьціянства і Праваславія?» — пыталі сябе. Да старога Рыму ў Маскве адносіліся больш як варожа, а новы або другі Рым — Канстантынопаль знайходзіўся ў магамэтанскіх руках. Тагачаснае расейскае духавенства стаяла вельмі нявысока. Ноўгародзкі арх. Геннадій (1484-1504) так жаліўся на кандыдатаў у сьвятары: «Прывядуць ка мне мужыка, я загадваю даць яму чытаць Апостал, а ён і ступіць ня ўмее; кажу Псалтыр даць, — і па тым ледва бродзіць... Я кажу хоць ектыніям навучыць яго, а ён і к слову ня можа прыступіць; ты гаворыш яму адно, а ён зусім другое. Кажаш начынаць з азбукі, а ён павучыўшыся трохі адпрошваецца зусім, ня хоча вучыцца... А калі ня высьвяціш такога, мне жаляцца: такая зямля, уладыка, ня можам знайсьці, хто-б хінуўся да граматы». Бяз сумніву, што на усход ад Ноўгарада палажэньне было яшчэ горшым.

Нічога дзіўнага тады, што духавенства такога ўзроўню ня мела адвагі рахаваць сябе за выбранае апірышча Хрыстовае Царквы, але з упадкам Канстантынопалю мусіла гэткае апірышча недзе знайсьці. Да гэтага часу візантыйскі цэзаропапізм усьпеў запусьціць глыбокія карэньні ў Маскве. Таму нічога дзіўнага, што з розных духоўных асяродкаў пачынаюць скіроўваць уважнейшы зор на маскоўскіх валадароў, шукаючы там разьвязкі сваіх сумніваў. Прышлец з Атонскае гары, манах Пахомій († 1485) з паходжаньня сэрб прапаведваў у Маскве, што Хрыстова Царква ня можа існаваць без імпэратара, або цара і першы пачаў маскоўскага вял. князя Васіля II (1425-1462) называць царом. Аднак яшчэ сам маскоўскі князь быў залежны ад татарскаго хана і гаспадарыў на параўнаўча невялікім абшары. Калі-ж у далейшым Маскоўшчына канчаткова вызвалілася ад татараў (1480), папрылучвала да сябе суседнія, незалежныя дагэтуль, княствы: Ноўгарад В. (1478), Твер (1485), Чарнігава-Северскія землі (1503), Пскоў (1510) і далучыла яшчэ ладную частку беларускіх земляў; калі ўся ўлада знайшлася ў руках аднаго маскоўскага Вял. Князя; калі Іван III (1462-1505) ажануўся з апошняю насьледніцаю візантыйскіх імпэратараў Зояю Палеолог — тады ён ужо бяз лішняе цэрэмоніі пачаў уважаць сябе спадкаемцам візантыйскіх імпэратараў; перабраў візантыйскі гэрб — двугаловага арла; справіў сабе імпэратарскі пасад і карону-шапку Манамаха, ды пачаў сам сябе тытулаваць царом і «Вялікія, Малыя і Белыя Русі самодержавцем», не зважаючы на пратэсты літоўскага (беларускага) Вял. Князя Аляксандра (1482-1506).

Цар пабачыў, што становішча абаронцы Праваславія можа быць вельмі добрым прыкрыцьцём для нападаў на сумежную Беларусь (войны ў 1494, 1500, 1503 і т. д.) і для зрываньня ўсякіх мірных дагавораў падпісаных з гэтаю апошняю «дзеля пабожнае прычыны — абароны веры».

Тады-ж быў зроблены апошні крок — абвешчана Маскву цэнтрам Праваславія. Да гэтага прыслужыўся сучаснік цароў Васіля III. Івана III і Івана IV Грознага манах Елеозаравага манастыра ў Пскове Філофей. Найбольш ясна выказаў Філофей сваю думку ў лісьце да Васіля III (1505-1533). На пачатку ліста вялічае цара найвышэйшымі пахвальнымі тытуламі і кажа, што ў яго царстве праваслаўная вера «ясьней сонца зьзяе...і хай знае твая дзяржава, благачэсьцівы цару, што ўсе царствы праваслаўнае хрысьціянскае веры зыйшліся ў тваё адзінае царства.. Адзін ты ўва ўсёй паднябеснай хрысьціянскі цар... І сёньня кажу: захавай і выслухай, благачэсьцівы цару, што два Рымы ўпалі, а трэці стаіць, а чацьвёртаму ня быць...»*)

Каб пабачыць. на колькі аўтар тэорыі аб трэцім Рыме мусіў быць тандэнцыйна-наіўным і рабска-дагодлівым, варта прыпомніць, што

*) В. Малин — "Старец Елеозарова монастыря". Кіев, 1901 г., с. 50-54.

сучасныя яму цары Васіль III, а тымбольш Іван IV Грозны запачаткавалі запраўдны наступ супраць Праваслаўнае Царквы.

Вераломныя прысягі і крыжацалаваньні пачынаючы ад Васіля III былі на парадку дзённым; расейскі сучасны эміграцыйны гісторык Федотов трапна заўважвае, што ад таго часу глядзець на сьвятасьць царскага крыжацалаваньня, стала запраўды «предрассудком». Васіль III першы раз у гісторыі Расеі самавольна скінуў мітрапаліта Варлаама ў 1521 г. і так-жа самольна назначыў новага — ад гэтага часу маскоўскія мітрапаліты сталіся звычайнымі царскімі ўрадоўцамі. За часоў Васіля III і Івана IV мітрапалічы пасад займала 9 ерархаў — з іх толькі 3 памерлі ў сваім сане; іншыя мусілі «дабравольна зрачыся», а адзін (сьв. Філіпп) быў замардаваны па загаду цара. У Маскоўскім Крэмлі былі заведзены тайныя кары — з крэмлёўскіх падзямельляў ніхто ня выходзіў жывы. Мітрапаліты прымушаліся да супроцькананічнага дзеяньня; м. Данііл даў развод Васілю III з яго першай жонкай Саламіяю пасьля таго, як гэты развод Візантыйскі патрыярх забараніў. Самую Саламію мітрапаліт сіламоц мусіў пастрыгчы ў манашкі. хоць яна нагамі таптала манашую вопратку, нема галасіла і клікала Бога на помсту. Пасьля гэтага мітрапаліт даў новы шлюб цару. Праўды цар дбаў і аб чысьціні веры — супраць ерэтыкаў «жыдоўствующих» была ўстаноўлена такая інквізіцыя, якое і на Захадзе ня было: цар загадаў «овым языки рэзати, иных огню предати»*).

За надта-б расьцягнуўся артыкул, каб пачаць пералічаць хоць талоўныя злачынствы супраць Царквы і духавенства Івана IV Грознага. Колькі пагарэла ад яго сьвятыняў і пагінула духавенства на Беларусі; напр., ў 1563 г., заняўшы Полацк, ссылае полацкага еп. у глыб Расеі, а палачан масава топіць у Дзьвіне. А колькі ў самай Расеі пралілі хрысьціянскае крыві ягоныя верныя апрычнікі... З яго загаду быў замардаваны мітр. Філіп.

Аб гэтых і ім падобных фактах маскоўскае грамадзянства добра ведала, аднак у бальшыні сваёй усё гэта апраўдвала йдучы сьледам за сьв. Язэпам Валоцкім (1439- 1515), які стварыў яшчэ раней тэорыю аб «богопремудром коварстве государя».

Паводля гэтае тэорыі ня толькі апраўдваліся ўсе царскія злочыны, але яшчэ багаслаўляліся. Дзіўным гэта можа выдавацца не аднаму, але магчыма лягчэй можна будзе зразумець псыхіку гэных людзей, калі пабачым, як сам сябе характэрызаваў аўтар тэорыі трэцяга Рыму, манах Філафей у лісьце да царскага ўрадоўца казаў: «і табе валадару ведама, што я чалавек сельскі і нязнайка ў прамудрасьці».

Відаць ён запраўды лічыў сябе малавартасным і таму ўсю ўладу і веліч пераносіў на цара хоць і «каварнага», каб самому менш разважаць.

На жаль знайшлося ня мала прыхільнікаў гэтае тэорыі. Таму нічога дзіўнага, што так злосна адзываўся аб праваслаўных расейскіх духоўных ведамы крытык В. Г. Белінскій у сваім лісьце да Гоголя (выд. 2. С.-Петербург. 1906 г. с. 13, 15), кажучы: «Праваслаўная Царква заўсёды была апірышчам бізуна і дагодніцаю дэспатызму»... «Зазначу толькі адно: калі еўрапейцам, асабліва каталіком авалодае рэлігійны дух, ён стаецца абвінавальнікам няправае ўлады, падобна да жыдоўскіх прарокаў, якія абвінавачвалі бясчынствы зямных валадароў. У нас-жа наадварот: нападзе на чалавека (нават талковага) хвароба, ведамая ў лекараў-псыхіятраў пад іменем religiosa mania, ён зара-жа зямному богу падкурыць больш чым нябеснаму, ды яшчэ так перабярэ меру, што той і хацеў-бы яго ўзнагарадзіць за рабскае стараньне, ды бачыць, што гэтым скампрамітаваў-бы сябе ў вачох грамадзтва».

Як-бы там ні было, але для расейскіх цароў тэорыя аб трэцім Рыме сталася цягавітым конікам, на якім яны часта і з посьпехам рабілі свае гістарычныя падарожжы ў суседнія краіны. І як ні дзіўна, сучасныя чырвоныя. бязбожныя валадары Масквы, выцягваючы на сьвет з гістарычнага мінулага ўсё, што можа прыслужыцца да заспакоеньня ненасытнага захопніцкага апэтыту, не забыліся аб «трэцім Рыме».

Шырока расьпісваюцца аб гэтай тэорыі акадэмічныя савецкія выданьні (параўн. И. У. Будовниц — Русская публицистика XVI в., Москва, 1947 г. с. 167-187). Не абмінаецца нагоды сказаць аб ёй хоць некалькі сказаў у школьных падручніках (параўн. История СССР — учебник для VIII кл. ср. школы под рэд. проф. Панкратовой. Москва, 1945 г. ч. І. с. 126). А ў «Журнале Московской Патриархии» дык амаль пры кожнай нагодзе сустракаецца крылаты сказ: «Москва — третий Рим». (Параўн. Ж. М. П. 1945 г. Нр. 3. с. 21, 1946 г., Нр. 8. с. 32, 36., Нр. 9. с, 56., і т, д.):

У гэтым-жа дусе «трэцяга Рыму» узгадоўваецца маладых савецкіх духоўных у сучасных савецкіх сэмінарыях**).

Маецца такое уражэньне, што сучасныя бязбожныя маскоўскія валадары больш паслугоўваюцца гэтаю тэорыяю, чым ранейшыя цары. Менш для рэлігійных, але бадайшто выключна для імпэрыялістычных мэтаў. У 1943 г. адноўлена Маскоўскую Патрыярхію і запраўды стаханаўскім тэмпам адноўлена савецкую «праваслаўную» ерархію. (Калі на пачатку 1939 г. на абшары

*) Г. П. Федотов — Святые древней Руси. Париж, 1931, с. 187.

**) Ж. М. П. 1947 г., Нр. 4, с. 13.

СССР было дзейных толькі 4 ерархі, дык у 1947 г. іх было ўжо 79). Адначасна ліхаманкавым тэмпам пачынаецца навязваць «прыязныя адносіны» з іншынацыянальнымі аўтакефальнымі Цэрквамі, прылучаць расейскія зарубежныя царкоўныя грамады і прымаць ды высылаць розныя дэлегацыі ўва ўсе канцы сьвету на савецкіх самалётах. Нячуваны дагэтуль рух; вось хроніка прылучэньняў да Маск. Патрыярхату: Грузія 13-X-1943, Украіна 1944, Беларусь 1944, Эстонія 5-III-1945. Баўгарыя 6-IV-1945, Югаславія красавік 1945, Румынія 12-V-1946, «Паломніцтва» сав. Патрыярха ў сьв. Зямлю 20-V—10-VI-1945 і адведзіны ўсходніх Патрыярхаў, м. Евлогій падпарадкоўваецца Маскве 29-VIII-1945, Фінляндыя (расейская эміг.) 28-IX-1945, ліквідацыя Гр.-кат. Царквы на Украіне 1946, далей адна за адною прылучаюцца праваслаўныя грамады Чэхаславаччыны, Мадзяршчыны, Аўстрыі, Нямечыны, Амэрыкі, Кітаю. У студзені гэтага году радасна аглядала Маскву Албанская правасл. дэлегацыя. У 1946 г. бала абегла ўвесь сьвет сэнсацыйная вестка, што Маскоўскі Патрыярх робіць стараньні, каб склікаць у Маскве ўсеправаслаўны Сабор. Усходнія патрыярхі, за выняткам аднаго, паставіліся няпрыхільна да гэтага праекту і Сабор адложана, але стараньні йдуць далей.

Якія запраўдныя мэты Масквы ў гэтых стараньнях можна даведацца з пастановаў Сабору, які адбыўся ў Маскве 8-19 ліпеня 1948 г. з нагоды ўрачыстага сьвяткаваньня 500 угодкаў Аўтакефаліі Расейскае Праваслаўнае Царквы. У гэтых пастановах блізу нічога не гаворыцца аб самай сучаснай Расейскай «Праваслаўнай» Царкве, але затое ёсьць шмат нападаў супроць Экумэнічнае Рады ў Амстэрдаме і Каталіцкае Царквы, перадусім супроць Папы, за іх «антыдэмакратычныя імкненьні» — амаль слова ў слова паўторана тое, аб чым штодзенна расьпісваецца камуністычная газэта «Праўда».

І гэта ўсё дзеецца тады, калі салавецкія вызнаньнікі за Праваслаўе ставілі сабе раней і сёньня ставяць такія пытаньні: «Хай у мінулым мы ня раз падаваліся маральна дзеля нейкіх, паводля нашага меркаваньня, карысьцяў Царквы і, не зважаючы на гэта, ня трацілі Праваслаўя, але ці не дакаціліся мы цяпер гэтым шляхам да прадажніцтва Царкве, да поўнас зрады ёй?»*).

*) Михаилъ Священникъ — Положеніе Церкви въ Совѣтской Россіи. Іерусалимъ, 1931 г., с. 95.

Сёньня палажэньне на толькі пагоршылася, што шырокаведамы часапіс «Православная Русь» у Нр. 17 з 1948 г. змушаны быў напісаць «крывёю і сьлязамі абмытыя словы» і на пытаньне «Благодатна ли советская Церковь?», адказаць рашуча: Не!

Ня будзем паўтараць тут, але ўспомнім, што на старонках іншых праваслаўных газэт і часапісаў сустракаюцца шмат вастрэйшыя пытаньні і адказы. Ня будзем імі займацца, але зьвернем увагу на што іншае.

Для кожнага аб'ектыўнага назіральніка, як і для тых, што мусілі шмат выцярпець ад «трэцяга Рыму» з дня на дзень стае ясьнейшым, што навука манаха Элеазаравага манастыра Філафея пра Маскву — трэці Рым, сталася для правячае маскоўскае эліты тым, чым для немцаў — назістаў навука Нітшэ пра надчалавека (Ібэрмэнша), і здаецца не памылімся. калі скажам, што можа давесьці да падобных вынікаў.

Відаць гэткі канец ужо адчуў інтуітыўна а. Ал. Шмеман, калі ў сваім артыкуле: «Судьба византійской теократіи» говорыць аб паважнай хваробе расейскае царкоўнае сьведамасьці і радзіць перамагчы яе цьвярозым і ўважлівым углыбленьнем у трагічную лекцыю візантыйскае тэократыі, бо «Калі не пакаецеся, усе так-жа пагінеце» (Православная мысль. Вып. V, 1947 г., с. 144).

Глыбокую праўду кажа народная мудрасьць: «Дапары збан воду носіць. — ручка адарвецца і збан паб'ецца». Збаном «трэцяга Рыму» шмат пераношана крыві і сьлёз, ад якіх у ім зьявілася не адна трэшчына, таму карыстацца ім далей вельмі небясьпечна.

Зрэштаю сучасны сьвет навучаны горкім мінулым адрозьнівае розныя падманы і эрзацы ад запраўднасьці. Эрзацы «другога» і «трэцяга Рыму» аж занадта відавочныя. «Другі Рым» залежны ад магамэтанскае ўлады і ў беспасярэдняй залежнасьці мае толькі к. 200.000 вернікаў; а «трэці Рым» танцуе пад дудку бязбожнікаў і садзейнічае вынішчэньню хрысьціянства. Толькі стары запраўдны Рым з сваім Пятровым Намесьнікам, як стаяў, так і стаіць вечна новы, вечна непахісна, пашыраючы і абараняючы Хрыстову навуку і будзе стаяць так да канца сьвету, і ніякія «пякольныя вароты не перамогуць яго». (Мат. 16, 18).

**а. Лазар.**

# Пацяшаючы знак часу

Між 3-15 верасьня г.г. Рым перажываў вялікія дні паломніцтва-кангрэсу Італьянскае Моладзі Каталіцкае Акцыі з нагоды васьмідзясятых угодкаў заснаваньня гэтае арганізацыі.

Упрыгожанымі вуліцамі стараветнай «сталіцы сьвету» праплыло ў арганізаваным парадку з сьцягамі і вульканічнымі клічамі ды чароўнаматыўнымі гымнамі больш паўмільёна маладых

энтузыястаў дэлегатаў і дэлегатак маладое адраджэнскае рэлігійнае акцыі. Між імі — прадстаўнікі 52 народаў з усяго сьвету.

«Мы дзеці веры», — грымела адусюль. Хрыстос перамагае! Хрыстос валадарыць! Хрыстос загадвае! Яму прыйшлі мы пасьвяціць наш народ ды цэлы сьвет!..

Сэрцы зьвярталіся да каханага Белага Айца, бо «чымбольш яго ненавідзяць ворагі, тымбольш мы яго любім».

Глыбокаўзрушаючыя і парываючыя сваёю веліччу ды сэнсацыйнасьцю сьвяткавальна-кангрэсныя імпрэзы прыцягалі нязьлічанае мора людзей, — казаў-бы: увесь сьвет і край паднялі на ногі і авулканілі цікавасьцю. Вось галаўнейшыя з тых імпрэзаў:

1. Штодзенныя сьвятыя літургіі пры базыліках, дзе ўся гэтая, агнём Божым натхнёная, маладая маса засілялася супольнай малітвай, уздыймаючым і сплаўляючым у адну духовую суцэльнасьць супольным сьпевам, словам Божым, ды Няйсьвяцейшай Эўхарыстыяй (Сьвятпрычасьцем).

2. Набажэнства «Дарогі Крыжа» ў асьвячаным мучаніцкаю крывёю Колёзэю у познавячэрняй настраёвай імгле з сьвечкамі ў руках, на якім самыя-ж сьвецкія ўдзельнікі сказалі 14 гарачапабожных прамоваў.

2. Мадэрна - мастацкая сцэна пятнаццаці Тайніц Жывога Ружанца — на вялізарным мармуровым Алімпійскім Стадыёне, якую прыгожа выканала паўтараста дзяўчат у экзотычных строях пад музыкальна вакальны акомпаньямэнт мэлёдэклямацыйнага маэстро. Глядзелася на гэта не як на тэатральную сцэну, а як на цудоўную пабожную дзею зямных ангелаў. Слухавое і відовічнае ўражэньне цяжка выказаць, бо яно захапляла і ўзносіла ў засьветы; разбуджала вышэйшыя думкі і жаданьні.

4. Гімнастычныя юнацкія канкурсы; ідэйнадыскусыйныя глыбокаўсьведамляючыя канфэрэнцыі, разважаньні.

5. А ў цэнтральным пункце абходаў — «сьвятая ноч» у радасным мігценьні сьвятла! Апоўначы сьв. Літургія на плошчы Сьв. Пётры перад чароўна ілюмінаванай Архібазылікай ды сотнямі тысяч сьветачаў у руках малельнікаў з якімі праз увесь горад гадзінамі сплываліся яны сюды. Відовішча і слуховішча да нявымоўнасьці велічнае і сьветазарнае. Уявіце бо сабе павісшую над зямлёю чорную ноч, а ў ёй. чароўную, аграмадную рассыпаваную мазаіку мігатлівых сьвечакдуш перад ілюмінаваным калясальным аўтаромфронтонам Сьвятыні Сьвятынь, не пасыўных глядзельнікаў, а блізу мільённы хор пабожных малельнікаў тут-жа на плошчы, агорнутай прасторнай калюмнадай у форме бацькаўскіх рук, і на прылягаючых вуліцах ды з пабожнасьцю прымаючых ад тысячы сьвятароў сьвятое Прычасьце. Ці гэта ня неба на зямлі?! Людзі аглядаючыя гэнае сьвятое снавідзтва на яве з высокіх дахаў, галярэяў ды ўзгор'яў ад захапленьня і перасыту ўражэньня так і паўтаралі: Божа, Божа, няначай прышло к нам Тваё валадарства, вымаленае штодзеннымі айчанашамі! То-ж бо ня чырвонадзікі пажар нэронавага Рыму — гэта пажар Божае любові і прамудрасьці на зямлі! Во рэлігія нашых часоў!..

6. На наступны, гэтак азначаны дзень, 12-IX сьвятым пагодным надвячоркам завяршальная аўдыенцыя з тронавай прамоваю на той-жа плошчы Сьв. Пётры. Зноў мора моладзі-народу разбушаванага энтузыязмам і авацыямі.

У натхнёнай глыбокаактуальнай прамове Пятровы Намесьнік паставіў перад прысутнымі ды ўсім хрысьціянскім сьветам тры пякучыя сучасныя збаўленчыя жаданьні:

а) перамога над бязбожніцтвам і ўвядзеньне хрысьціянскае веры і цывілізацыі ўва ўсё грамадзкае жыцьцё;

б перамога над матэрыяй добрага духа, які павінен ёю кіраваць;

в) перамога сацыяльных злыбядаў сілаю справядлівасьці і любові. Поўная жывая, дзейная наша вера і шчырае супрацоўніцтва з Божай Царквой — вось галоўнае аружжа перамогі!

7. Уканцы байковае красы мастацкая «Фрэгата» на рацэ Тыбру. Мора сьвятла і рознаколерных хэмічных агнёў (з іх фантастычна ўложаная Архібазыліка з ключамі сьв. Пятра, плаваючая па вадзе маўляў ягоная Нава). Сымфанічнае мора песьняў, музыкі, воклічаў радасьці і ўсялякіх уцехаў.

І ўсё гэта ў духу шчырае прызвітасьці, хрысьціянскае павучальнасьці, таварыскага сужыцьця, ветлівасьці, прыязьні і любові.

Кошты ілюмінацыі Архібазылікі падарыла Ірляндыя, на рэшту мусіла здабывацца сама нацыя.

Трудна выказаць славамі гэткія рэчы. Трэба іх бачыць і перажыць, каб мець аб іх паняцьце і адчуць уражэньне. Хто знае італьянцаў. іхнюю энтузыязмовасьць, а з другога боку каму ведама ўплывовая магутнасьць і нявычарпальныя душпастырскія мэтады Каталіцызму, той можа мець нейкае ўяўленьне аб уражэньні гэнай вялізарнай рэлігійна-адраджэнскай імпрэзы, закроенае і праведзенае з такім гігантызмам. Дала яна мацарны духова-сацыяльны ўздым, дала нераможны адпор ці адказ той дзікакрыкунскай дэмагогіі, сьвежаладжанаму ў Варшаве Камінформу.

Жыве, знача ідэйна-духовая адпорная сіла супроць гэнаму каўтунству!

Жыве Бог і Ягонае Валадарства між народамі!

Апісаная тут вялікая падзея магутнае Каталіцкае Акцыі, ёсьць добрым знакам гэтага — знакам нашых апакаліптычных часоў. **Дрыгвіч.**

# Ці малпы могуць гаварыць?

Пытаньне аб тым, ці зьвяры здольныя гаварыць, здаўна цікавіла прыроднікаў, як і філязофаў. Досьледы і вонкавыя назіраньні нібы паказвалі, што чалавекападобныя малпы маюць нешта падобнае да мовы, а на’т нейкія гукі. Аднак у сьвятле сучаснае мікроанатамічнае навукі мазгоў гэныя дагадкі аказаліся зусім беспадстаўнымі. Пайменна: на цэласьць нашае мовы складаюцца аж чатыры камплексы: слухавы, разумовапсыхічны, мовэрухавы і камплекс рухаў цягліц твару й горла.

Што да першага слухавога камплексу, дык ён у зьвяроў вельмі добра разьвіты, яшчэ лепш, чым у чалавека, бо ім гэты змысл больш патрэбны да самаабароны.

Другі камплекс разумова-псыхічны пазваляе нам разуменьне даных зьявішчаў, вязаньне іх у лягічную цэласьць. Гэты камплекс інакш званы асяродкам думаньня месьціца ў шэрай субстанцыі пярэдніх мазгавых глуздоў. Мазгавыя хвалды гэтых асяродкаў прадстаўляюць магутныя вогнішчы высокавартасных нэрвовых каморак аформленых. як хвалды таўшчынёю да 1,5 см. У малпаў ёсьць так-жа гэткія хвалды, але яны сягаюць толькі 1-1,5 мм. Пры гэтым высокавартасных нэрвовых каморак ёсьць шмат меней. Дзеля гэтага малпа разумець так, як разумее чалавек, ня мае анатамічных падставаў. У ненармальных людзей т. зв. імбэцылаў бачым напр.. што хвалды ёсьць у 2-3 разы танчэйшыя, чымся ў нармальнага, хоцьбы й дзікага чалавека. Таму мова і думаньне імбэцылаў абмежаваныя.

Трэці камплекс гэта ёсьць руховы асяродак мовы Брока. Гэты камплекс звычайна ўмяшчаюць у левый вісковай мазгавой глузьдзе. Гэты асяродак пазваляе аформіць навонках успрынятыя змысловыя паняцьці. На помач тут прыходзіць чацьвёрты камплекс цэлага раду нэрваў твару і горла, якія дазваляюць афармляць патрэбныя гукі. Усе гэтыя асяродкі ёсьць сьцісла і пэўна палучаныя, так што ў нармальных людзей працуюць бесперабойна.

Калі глянем на мазгі малпаў, дык трэцяга камплексу — рухавога асяродку мовы зусім там ня знойдзем. А як няма асяродку мовы, то рэч ясная, што няма ніякіх і спалучэньняў. Так што малпа можа круціць сківіцамі і пішчаць, бо чацьвёрты камплекс нэрваў твару і горла дзейнічае добра , аднак сэнсу уласьцівага мове разумнага чалавека, яна мець ня можа.

Калі глянем прыкладна ў мазгі найменшага дзіцяці, дык пабачым, што разумовы асяродак яго ў сотні разоў большы, чымся ў любое малпы. Каморачкі асяродку мовы Брока ў дзяцей ёсьць, але ня так буйна развітыя, як у дарослага чалавека. Няма так-жа ў дзяцей спалучэньня між асяродкамі разумовым і моўным. Гэтае спалучэньне разьвіваецца ў веку 1-4 гады. Таму дзіця спачатку крычыць, пасьля пачынае разумець, гаварыць паадзінокія гукі, словы і наступна вяжа іх у лягічныя сказы. У гэтым часе дзяцей лёгка вучыць моваў.

Гэтак чалавек прыходзіць на сьвет з усімі данымі, каб магчы гаварыць і гэтыя даныя разьвіваюцца ў меру росту дзіцяці, а малпа гэткіх даных ня мае, мазгі яе не разьвіваюцца.

Цікава, што ёсьць такія хваравлівыя станы, калі ў чалавека перарываецца спалучэньне між разумовым і моўным камплексамі, але й тады думаньне ня спыняецца; тады чалавек разумее, што да яго гавораць, але ня можа адказваць, затое напр. можа адпісаць. Гэта завецца матарычная афазія.

На пытаньне ці зьвяры, перадусім малпы, будуць некалі гаварыць, трэба адказаць нэгатыўна. Калі конь заўсёды родзіць каня, карова карову, то як малпа можа радзіць нешта іншае, як малпу? Мова ёсьць духовым скарбам зямнога валадара прыроды-чалавека, і вымагае так душэўных, як і анатамічных даных, якіх на зямлі ніхто ня мае акрамя чалавека.

**Др. Я. М.**

# Брат, кліча цябе родны край!

(Артыкул надасланы ад аднае беларускае групы лягэру Д. П.).

«Алесь, ты помніш дарогі Палесься?!»

Брат! Усё роўна адкуль ты, з-пад Гомеля, ці з-пад Магілёва; з над Буга, ці з над Дняпра. Помніш, як праводзіла цябе родная маці, як багаславіла цябе на няведамы шлях? Помніш, як нахмурыў суровыя бровы бацька, даваўшы кароткі наказ, не пасароміць яго сівізны? Помніш, як адвярнулася твая сястра, хаваючы нявольна наплыўшыя сьлёзы, як твая дзяўчына маўкліва чакала цябе за ваколіцай і дарыла на памятку ўзорна вышытую хустачку?

Помніш? Яны не забыліся таго разьвітальнага дня. Яны не забыліся цябе. Ты быў іх гордасьцю і спадзяваньнем; яны ня вераць думкам аб тваёй сьмерці — яны чакаюць цябе — чакаюць

цябе твае родныя, твае знаёмыя і суседзі. Чакае цябе Край. Ня той край, за каторы заклікалі цябе чырвоныя апрычнікі, стаяць за іх крывавага «бацьку» да сьмерці; ня той край, каторы паказвалі табе ў кіно і аб якім пісалі падхалімы. — Цябе чакае Край, загнаны за калючы дрот, пастаўлены на калені; сьвяты і багаты старавет-ны край тваіх слаўных продкаў. Брат! ты чуеш яго зоў? Браце, ці чуеш ты?! Ён там прыглушаны — ты мусіш стаць яго рэчнікам. Ён там цярпіць нявымоўныя мукі; як можаш ты не падзяляць іх? Ці адрачэшся ад наказу роднае маці?

Ён чакае цябе! ён верыць у цябе, як у апошнюю надзею. Памажы яму! Няўжо ты, ня бачыш яго бледнага твару, няўжо ты стаў глухі на яго зоў?!

Брат! Ты стаў не па гадох пажылым; вайна ўкрала ў цябе тваё юнацтва. Ты багата перажыў на сваім шляху. Твае дарогі — дарогі папялішчаў, магіл і нараканьняў, але скажы праўду перад сваім сумленьнем: ці можна зраўняць твае страды з страдамі твае Радзімы?

Ты яшчэ багаты ў сілу, ты яшчэ можаш шмат зрабіць у радох барацьбітоў за свабоду і лепшую долю Беларусі. Абудзі ў сабе веру і ажыві сэрцы тых, якія згубілі веру ў свае сілы, згубілі волю да барацьбы.

Твае браты гінулі ў няроўным бою за свабоду роднага краю. Гінулі за тое, каб беларускія маткі ня мучыліся на калгасных палёх і душных фабрыках, каб ня лілі горкіх сьлёз па сасланых найбліжэйшых родных і знаёмых. Яны гінулі за тое, каб твая радня і блізкія ня губілі рэштак сваіх сіл у тванях балот і канцэнтрацыйных лягэрах. Яны гінулі за тое, каб сёстры і браты ня зналі нуды й гора, каб ты вярнуўся дамоў ня выгнаньнікам, а паўнапраўным сынам свайго народу. Яны не шкадавалі жыцьця ў абароне Божых правоў і прыказаньняў. Яны гінулі ў барацьбе супраць тыраніі тых, якія ператварылі край у турму, сьвятыні ў руіны, а народ у нявольнікаў. Няўжо кроў тых, якія «жыцьцё сваё аддалі за братоў сваіх» не абудзіла ў табе змагарнага духа? Няўжо ты ня знойдзеш у сабе адвагі заняць іхняе мейсца і прадаўжаць іх чын? Няўжо ты ня знойдзеш у сабе сілы да дзеяньня? Няўжо ты будзеш бязьдзейна чакаць, каб іншыя праклалі дарогу к роднаму краю, каб і ты мог вярнуцца да сваіх родных і блізкіх? Шмат аб чым спыталі-б цябе твае родныя, — што скажаш ім тады? ці ня сорамна табе будзе глядзець ім у вочы? Твае браты і ўсе тыя, што супольна з табою пераняcьлі цяжкі змаг і страды, ужо будуць тварыць магутныя рады, а ты? Ідзі да іх цяпер. Нас знойдзеш усюды і пазнаеш. Высока ўзьняты наш бел-чырвона белы сьцяг, а на ім ясьней сонца зьзяе кліч: «Бог і Бацькаўшчына». Змаганьне да перамогі! За жыцьцё і славу народу! За свабоду Радзімы! На зьмену ўпаўшым змагаром мы ідзём і багаславіць нас Бог убачыць сьветлыя дні!

**Г. П. М.**

# Дробнае здарэньне

Была восень. На полі і ў лесе жыцьцё замірала, але ў гімназійнай бурсе яно нядаўна ажыло. З розных куткоў Беларусі пазьязджалася туды школьная моладзь і ціхі праз усё лета дом адразу замяніўся ў вулей. Там заўсёды было галасна і весела, толькі Алесь Вавір ужо каторы год ня ўмеў зьліцца з вясёлаю грамадаю сваіх сяброў. Ён, як адлюдак стараўся зашыцца куды небудзь у глухі куток ад розных шаламілаў, не раўнуючы, як сабака ад дакучлівых мухаў. Але якраз дзеля гэтага кожны непаседа стараўся яго знайсьці і хоць «ненарокам» закрануць яго.

Праўду кажучы, Алеся ніхто паймення не называў, звычайна клікалі Мялікам, бо між намі кажучы, у бурсе мянюшкі былі больш моднымі, як больш трапныя.

Каму як каму, а Мяліку дык даводзілася цярпець шмат ад расьсьмеянае грамады. То яго між ложкаў сьціснуць, то пад ложак загоняць, то «цыганоў па дгару пусьцяць», то зробяць «кучку невялічку», то піскуноў шукаюць, то сшыткі пахаваюць — і канца гэткім блазэнствам ня было.

Хоць вучыўся ён ня дрэнна, але настаўнікі так-жа да яго адносіліся з лёгкаважаньнем. Разьмяркоўваючы зьніжкі ў аплаце за навуку, Алеся неяк абміналі. Аднак ён, дарма што дражнілі яго Мялікам, запраўды з беларускаю зацятасьцю дайшоў да апошняе гімназійнае клясы.

А ўжо ад вякоў ведама, што як толькі гімназіста пачануць называць матурыстам, дык ён блазнуецца горш дзіцяці, і вось Алесю з самага пачатку школьнага году ад сваіх сяброў матурыстаў амаль жыцьця ня было. Трывала аднак гэта нядоўга.

Аднойчы ён зашыўся ў самы кут на падстрэшшы і ўглыбіўся ў чытаньне абавязковае літаратуры, як раптам пачуў з карыдору крык:

— Мялік, бацька прыехаў!

— Бацька! паўтарыў сам сабе Алесь. Мусіць нешта сталася, думаў ён, схоўдзячы з падстрэшша.

Пісаў-жа каб грошы за навуку прыслалі, а ён сам прыехаў... што гэта значыла-б?

— Здароў сынку! казаў пажылы дзядзька з сівай доўгай барадою, цалучы Алеся...

— Тата, што гэта сталася, што Вы прыехалі так неспадзевана, хіба майго ліста не атрымалі?

— Атрымаў, сынку, атрымаў, але адказаць ня меў чым, дык вось і прыехаў сам.

— Дык што-ж цяпер рабіць?

— Або я ведаю што? Было як на ліха, а сталася як на пуста. Яшчэ як на тую бяду цялушка ўпала і сьвіня мінулася, дык цяпер я зусім жабрак ды й годзі.

Алесь маўчаў, апусьціўшы галаву.

— Чаму-ж цябе ад аплаты цяпер ня звольнілі, пытаўся бацька, можа ты што нядобрае зрабіў, ці сказаў?

— Дане, я нічога, але дырэктар ня слухае, як я прашу.

— Калі так, дык паедзем, нябож, дахаты. Казаў чуць ня шэпчучы бацька. Можа налета, як Бог дасьць, спор у гаспадарцы, дык тады дакончыш сваё...

І бацька з сынам паволі пачалі зьбіраць рэчы. Бацька ўзяў першы клунак і панёс на воз. Падарозе ён, прайходзячы каля вучальнага пакою, стрэнуў Козыра, таго завадыяку, што найбольш дакучаў Алесю.

— Куды, Вы, дзядзька з клункамі? азваўся Козыр.

— Павязу Алеся дамоў.

— Што, дамоў? Чаму?

— Няма чым плаціць, а ня звольнілі ад аплаты за навуку, дык што-ж рабіць?

— Пачакайце! Замітусіўся Козыр і ўчапіўся за клунак. Як гэта не атрымаць матуры, калі яна блізу што на носе?

— Кепска, дзеці, але што-ж зробіш!

—Мы зараз. Ён вырваў клунак у старога і папёр яго назад на алесяў ложак.

Падарозе далучыліся да яго іншыя.

— Алесь (першы раз ад доўгага часу Козыр назваў Алеся паімені) ідзём з намі да дырэктара.

— Дык ён толькі лаецца будзе, пробаваў апраўдвацца Алесь.

— Нічога, мы так-жа ўмеем гэта нязгрош, а яшчэ возьмем Швайку, у таго язык хоць прытупляй. Ды што ты з сваім маўчаньнем... раптам накінуўся Козыр, цяпер брат сьвет такі, што пакорнае цялятка ніводнае маткі ссаць ня зможа, бо і адна брыкне і другая па зубах дасьць.

— А што як дырэктар ня згодзіцца? шаптаў Швайка на самае вуха Козыра.

— Складку зробім.

— Варта спытаць іншых, ці згодзяцца.

— Можна...

Паважныя міны бурсакоў — кароткая нарада і... з грукатам зачыніліся дзьверы, за трымя старэйшымі бурсакамі.

Аж зьвінеў ходнік пад крокамі трох юнакоў і Алесь гэтым разам не адставаў ад сваіх сяброў.

З дырэктарам размова неспадзевана была кароткая. Ня былі патрэбнымі ані доўгія гутаркі, ані востры язык. Пабачыўшы дэлегацыю аж трох вучняў і іхнія паважныя абліччы, а перадусім шчырасьць для ратаваньня свайго сябры, дырэктар адказаў коратка.

— Добра, добра, зробім усё магчымае. хай бацька спакойна едзе дамоў.

— Дзякую! казаў Алесь.

— І мы дзякуем паважанаму дырэктару ад імені ўсіх матурыстых.

Чуць ня подбегам гналіся яны ў бурсу.

— Вось бачыце, казаў Козыр да алесявага бацькі, гаварылі што звольніць і звольніў. Яшчэ і ў бурсе нешта скамбінуем.

— Ох, дзеткі, як вы будзеце камбінаваць, калі тут блізу ўсе гэткія самыя. Ужо бульбы і круп і ў мяне хопіць на яго долю.

На разьвітаньне бацька дастаў свой хатылёк і апаражніў яго, аддаючы ўсё Алесю.

— А што-ж Вы будзеце есьці дарогаю?

— Бяры, бяры, я не галодны. Ты ўсё казаў, што яны ліхія, а яны бачыш якія... Ну сівая! І стары паехаў назад адзін.

На вячэры гэтага-ж дня, калі Козыр насыпаў солі ў лыжку языкатаму Мяньцэю, як той загаварыўся з суседам, дык у агульным сьмеху не бракавала Алесявага голасу. Калі-ж пасьля вячэры адзін з першаклясьнікаў увайшоў у пакой матурыстаў, дык зусім зьбіўся з панталыку, бо ў пакоі быў толькі адзін Алесь і ён сядзеў за сталом і нешта паважна пісаў, ды сам першы азваўся да ўходзячага:

—Ты чаго?

— Я шукаю Травіча, во не разумею гэтае фізыкі. і паказаў на свой сшытак.

— Пакажы сюды, што там гэткае незразумелае. І Алесь адсунуў на бок свае кніжкі і сшыткі, ды з такою пільнасьцю пачаў тлумачыць малодшаму сябру, што ў ім цяжка было дабачыць яшчэ ўчарашняга адлюднага Мяліка.

Няпрыкметна мінула для бурсакоў і для самае бурсы дробнае здарэньне з Мялікам. Шчырая прыязьнь, быццам вясеньні жыватворчы прамень, даканала таго, чаго не маглі зрабіць ніякія сьмешкі ні гвалты. І нават сам Алесь не заўважыў, калі ён перастаў быць для сваіх сяброў Мялікам.

# ЕРУЗАЛІМ

(Прадаўжэньне).

## ВАЖНЕЙШЫЯ БУДЫНКІ.

Акрамя вышэй пералічаных будынкаў у Ерузаліме ёсьць шмат іншых так рэлігійных, як і сьвецкіх, якія вырозьніваюцца спаміж іншых.

У новым месьце на вуліцы сьв. Юліяна зьвяртае на сябе ўвагу вялікі будынак з высокаю вежаю амэрыканскае пратэстанцкае арганізацыі ІМКІ. Насупраць гэтага будынку з другога боку вуліцы знайходзіцца аграмадны гатэль Давіда.

На захад ад Імкі на вуліцы Кінг Джордж відаць будынак Калегіі Сьвятое Зямлі. Сам будынак не вялікі, але стаіць на высокім мейсцы. На версе будынку ёсьць статуя Божае Маці.

У іншым квартале вырозьніваецца вялікі і арыгінальны будынак італьянскага шпіталя з высокаю вежаю, тупа закончанаю зьверху.

**Ёсьць** таксама ў Ерузаліме расейскі праваслаўны сабор, абісынская царква, англіканская катэдра і шмат іншых рэлігійных і сьвецкіх будынкаў рознага ўжытку, а так-жа шмат прыватных вялікіх камяніцаў.

Будынкі ў Ерузаліме пераважна з каменьня; даўнейшыя муры пабудаваны нават з даволі вялікіх абцёсаных скальных глыбаў.

З каменьня будуюцца сьцены, з каменьня дахі, з каменьня падлогі, часта нават замест платоў пароблены каменныя загароды. Нават на новым месьце можна пабачыць замест агарожы каменныя сьцены зложаныя з грубша паабсяканых глыбаў. Некаторыя вуліцы ў старым месьце выбрукаваныя так-жа каменьнем, кантавата абчэсаным. Але большаю часткаю

## ВУЛІЦЫ

ў Ерузаліму, падобна, як важнейшыя дарогі ў Палестыне найбольш асфальтовыя.

У старым месьце вуліцы даволі вузкія, а калі йдуць пад гару, дык маюць сходы, так што езьдзіць па іх можна толькі аслամі вярхом. Гэткім-жа спосабам возяць розныя цяжары.

Затое навейшыя кварталы маюць вуліцы шырокія, часам абсаджаныя дрэвамі. У гэтых кварталах спатыкаюцца вялікія і прыгожыя камяніцы і багатыя крамы.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ.

Ерузалім ляжыць у даволі высокай і гарыстай мяйсцовасьці. У самым месьце гэтага не даецца заўважыць, але навокал места ўсюды відаць стромыя горы паадзьдзяляныя вузкімі далінамі. Усюды ёсьць

## ШМАТ КАМЕНЬНЯ,

а нават цэлыя скалы ледзь чуць прыкрытыя, ці перасыпаныя зямлёю.

Праўда ня ўся Палестына такая камяністая. Ёсьць некаторыя мейсцы з прыгожым ураджайным чарназёмам. Але вакол Ерузаліму, падобна, як у іншых гарыстых мясцох зямля пераважна камяністая. На вольных пляцох у Ерузаліме таксама відаць толькі камяні. На некаторых звальваюць груз, на іншых відаць нават руіны старых будынкаў. Сям там на гэтых пляцох растуць аліўныя дрэвы; між каменьня пнецца трава і рознае дзікае зельле. Тут-жа побач іх пры камяніцах кідаюцца ў вочы прыгожыя ўквечаныя агародчыкі.

Каб пракапаць які раўчук тут трэба вельмі часта амаль кожную пядзю выкоўваць у скале.

Так у самым месьце, як вокал яго ёсьць цэлыя падземныя лёхі і старыя грабоўцы высечаныя ў скале.

Зелені малавата, асабліва летам. Тады тут кругом усё проста бялее: і расьліннасьць спаленая сонцам, і каменьні, і зямля, і будынкі.

## КЛІМАТ

у Палестыне, як у краю палажаным шмат далей на паўдня, многа цяплейшы чым у нас. Летам сонца тут ходзіць блізу проста над галавою. Але блізіня Міжземнага мора лагодзіць клімат. Летам дажджоў ня бывае, затое зімою замест снегу йдуць частыя дажджы. Толькі зрэдка, раз на некалькі гадоў паказваецца тут снег, але толькі ў больш гарыстых ваколіцах. Гэткае зімы, як мы яе сабе ўяўляем, тут не бывае ніколі. Палестынская зіма падобная да нашае вясны. На Каляды тут цьвітуць розныя кветкі і можна мець проста з агароду розную гародніну. Але ўсё гэта рэчы меншае вагі.

Варта зьвярнуць увагу на асаблівае

## ЗНАЧЭНЬНЕ

якое мае Ерузалім ня толькі для нас хрысьціян, але агулам для ўсяго сьвету. Тут даканалася справа адкупленьня людзкога роду. У гэтай часьцы зямнога глёбу ўчалавечанае Адвечнае Божае Слова ў асобе Ісуса Хрыста дакраналася нашае Зямлі. Тут сваімі нагамі хадзілі па гэтай зямлі сам Сын Божы і Яго Прачыстая Маці. Калі глянуць на Яе статую ў касьцеле Notre Dame дык адчуваецца ў сэрцы вялікая годнасьць гэтае выняткавае істоты. — Цяжка знайсьці словы, каб выказаць тут свае пачуцьці бо тут яе прысутнасьць і сёньня неяк больш адчувальная.

— Тут у Ерузаліме яна радзілася, тут заснула ў Богу, тут пахавана і адгэтуль узята ў неба.

Тут прайходзіў свой земскі шлях Ісус Хрыстос — тут Ён цярпеў, памёр і ўваскрос. Тут пасьля ўваскрасеньня паказваўся сваім найблізкэйшым. Адгэтуль у прысутнасьці сваіх вучняў адышоў на неба. Ерузалім ёсьць мейсцам Ягонага жыцьця і сьмерці, цярпеньня і трыумфу.

Тут Дух Сьвяты зышоў у бачны спосаб на апосталаў, надзяляючы іх нябеснымі дарамі — бедных людзей узбагаціў нябеснымі скарбамі.

Тут у Ерузаліме даканалася 11 з тых 15-і тайніцаў нашага адкупленьня, якія разважаем у ружанцы, а іншыя адбываліся ў параўнальна недалёкіх ваколіцах, якія так-жа кожны наведвальнік Ерузаліму стараецца адведаць.

## БЭТЛЕЕМ.



гэта места, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос. Адлеглае яно ўсяго 9 км. ад Ерузаліму. Сёньня яно мае выгаднае аўтабуснае спалучэньне з Ерузалімам. Самаходы адходзяць туды з Яфскае брамы. На мейсцы нараджэньня Хрыста сёньня знайходзіцца

## БАЗЫЛІКА НАРАДЖЭНЬНЯ.

Самая грота, дзе радзіўся Хрыстос, знайходзіцца пад вялікім аўтаром Базылікі, а тое мейсца, дзе радзіўся Хрыстос, азначана срэбнаю зоркаю. Тут ёсьць і жалабок, а недалёка ад яго аўтар трох каралёў.

Побач Гроты Нараджэньня пад Базылікаю ёсьць некалькі падземных капліцаў, як: капліца сну сьв. Язэпа, капліца дзяцей памардаваных Ірадам, келія сьв. Ераніма і другія.

Ёсьць яшчэ ў Бэтлееме так званая Малочная Грота дзе паводле традыцыі Божая Маці апошні раз накарміла Божае Дзіцятка перад уцёкамі ў Егіпет.

Малочная Грота знайходзіцца недалёка ад Базылікі Нараджэньня.

Яшчэ крыху далей за Малочнаю Гротай знайходзіцца манастыр Францішканак Місіянэрак Марыі. З даху гэтага манастыра добра відаць поле Пастухоў, дом сьв. Язэпа і другія цікавыя рэчы гэтае ваколіцы.

Блізка ад Ерузаліму адбылася другая Тайніца нашага адкупленьня: як Найсьвяцейшая Дзева наведала сьв. Альжбету. Мястэчка, ў катoрым гэта сталася называецца

## АЙН-КАРЫМ,

знайходзіцца яно яшчэ бліжэй ад Ерузаліму чым Бэтлеем і так сама мае самахадовае спалучэньне.

Тут у Айн-Карыме ёсьць касьцёл Адведзінаў каторы стаіць на мейсцы, дзе сьв. Альжбета вышла на спатканьне Прачыстае Дзевы.

Ёсьць тут і касьцёл сьв. Івана Хрысьціцеля, бо Айн-Карым ёсьць мейсцам нараджэньня гэтага апошняга прарока, каторы прыгатаваў дарогу для Збаўцы сьвету, які даканаў справу адкупленьня сьвету ў ЕРУЗАЛІМЕ.

(Канец)

## ПАПРАЎКІ.

У артыкуле «Ерузалім» трапіліся некаторыя памылкі. Лічым сваім абавязкам паправіць на гэтым мейсцы галаўнейшыя з іх:

Нр. 4. разьдзел «Базыліка Кананьня — ст. 14 у пятым абзацы надрукавана: «Увайохдзіцца ў Базыліку... звычайна... з паўдня», павінна быць «з поўначы».

Нр. 5 ст. 14, разьдзел «Ойча наш», радок 7 зьнізу надрукавана: «Тут была калісь базыліка сьв. Алены» — павінна быць: «Тут была калісь базыліка сьв. Элеоны, пабудаваная сьв. Аленаю».

Разьдзел «Бэтанія» абзац 2 надрукавана: «Калі вернемся ад Гэтсэмані» — павінна быць: «Калі вернемся да Гэтсэмані».

Нр. 6. ст. 12. разьдзел «Стацыі Крыжовае Дарогі» радок 16 зьнізу, надрукавана: «і на поўдня ад яе гару Скопус» — павінна быць: «і на поўнач».

Разьдзел «Базыліка ECCE HOMO» абзац 3. надрукавана: «Паверхня вуліцы... была амаль на мэтар ніжэй», — павінна быць: «некалькі мэтраў ніжэй». У наступным обзацы радок 3, надрукавана: «на правым баку вуліцы» — павінна быць: «на левым баку вуліцы».

Разьдзел «Базыліка Гробу» абзац 3, надрукавана: «падчас першага нападу» — павінна быць: «падчас пэрскага нападу».

Нр. 7. ст. 13. разьдзел «Калюмна Бічаваньня» абзац 3, надрукавана: «можна аглядаць яе толькі праз шкло» — павінна быць: «праз малое вакенца».

Разьдзел «Вячэрнік» 2-і радок зьнізу, надрукавана: «Гэтая брама знайходзіцца з паўночнага боку мураў» — павінна быць: «з паўдзённага боку мураў».

Ст. 14 разьдзел «DORMITORIO» павінна быць «DORMITIO».

Нр. 8 разьдзел «Каменяломні Салямона» абзац 3, надрукавана: «Ад Дамаскінскае брамы у паўдзённым кірунку» — трэба: «у паўночным кірунку».

### ДАПІСАК.

Ад часу, калі быў напісаны гэты артыкул і пачаў друкавацца штамт чаго ў Палестыне зьмянілася. У міжчасе адтуль выйшлі англійцы і адначасна распачалася вайна між жыдамі і арабамі. Падчас ваенных дзеяньняў пашкоджана, а нават зусім панішчана, некаторыя з апісаных тут будынкаў.

Для хрысьціянства гэта спрычыніла вялікую страту, бо Сьвятыя Мейсцы зьвязаныя з земскім жыцьцём Хрыста становяць для нас дарагія памяткі. Таму ўвесь хрысьціянскі сьвет цікавіцца доляю Палестыны і павінен далажыць усіх стараньняў, каб захаваць Ерузалім ад зьнішчэньня.

**Д. Анісько.**

## Да нас пішуць

Паважаная Рэдакцыя часапісу «Божым шляхам»!

Вашу пошту разам з часапісамі і малітаўнікамі атрымалі, за што шлём Вам шчырую падзяку, ад усяго гуртка беларусаў у Куфштайн...

Мы, адарваныя вайною ад радзімы, вельмі рады, што нарэшце дзякуючы вашай помачы, маем хоць сувязь з сваімі арганізацыямі на чужыне і можам уліцца ў адну сям'ю, ды прымаць удзел у змаганьні за свабоду і лепшую долю роднага краю.

Цяпер мы бадзёра трымаем бел-чырвона-белы сьцяг і шлём усім суродзічам брацкі прывет.

Няхай жыве Беларусь!

Просім зьмясьціць гэтую падзяку ў «Божым шляхам».

Куфштайн, 15-VIII-48.

(—) Подпісы.

Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны а. Рэдактар!

Шчыра дзякую Вам за ліст, часапісы... і добрыя весткі. Бачу, што добры Бог нас, грэшных людзей, ня толькі карае, але і мілуе. Я веру, што Ён выслухаў малітвы мае маткі, якая моліцца ў родным краі за мяне і за наш народ. Хаця над нашым краем сёньня ходзяць цёмныя хмары і лютуе дзікі зьвер, аднак усяму бывае канец... Мы, моладзь, павінны шчыра працаваць і горача маліцца Богу, каб прысьпешыць гэтую радасную хвіліну, а так сама павінны карыстаць кожную нагоду, для здабываньня асьветы, каб вярнуцца ў родны край з моцнымі сіламі і карыснаю ведаю, каб там магчы працаваць Богу на славу і народу на карысьць...

Жыве Беларусь!

Нямеччына. 20-VIII-48.

З пашанаю Б...

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### АЎСТРАЛІЯ.

#### Трэці транспарт беларусаў.

Сёлета ўжо трэці транспарт перамешчаных асобаў прыехаў у Аўстралію. Між новапрыехаўшымі знайходзіўся 21 беларус. Усе новапрыбыўшыя перад разьездам на працу жылі ў пераходным лягэры Бонэджіля, вывучаючы ангельскую мову і аглядаючы навуковыя фільмы. У гэтым часе кожная нацыянальная група мела магчымасьць выступаць з канцэртамі. Склад беларускае групы не дазваляў на канцэртныя выступы, але затое, калі была наладжана для аўстралійцаў выстаўка ў гор. Эльбуры, беларусы занялі там прэшае мейсца сваімі даматканымі дзяругамі і ручнікамі. Магчыма, што пры гэтай нагодзе шырокія аўстралійскія кругі ўпяршыню пачулі аб Беларусі.

У сучасны мамэнт на абшары Аўстраліі ёсьць два часовыя Беларускія Камітэты. Старэйшая беларуская эміграцыя ў Аўстраліі вельмі адчужылася ад усяго роднага, таму арганізацыйная праца апіраецца выключна на новай эміграцыі, хоць яна і знайходзіцца ў цяжкіх умовах, расьцярушаная па адвечных джунглях, або цукровых плянтацыях, прымацованая да мейсца працы двугоднім кантрактам.

Палажэньне жанчын шмат лепшае, бо яны працуюць найчасьцей, або пры шпіталях, або ў прыватных дамох.

Амаль з усіх куткоў расьцярушаньня паведамляюць, што матэрыяльны ўзровень жыцьця ў Аўстраліі даволі высокі, але духовы ў параўнаньні да Эўропы шмат ніжэйшы.

### КАНАДА.

#### Стараньні аб арганізацыі.

Не зважаючы на цяжкія абставіны, новая беларуская эміграцыя ў Канадзе згуртаваная ля часапісу «Беларускі эмігрант», распачала падрых-

тоўчую працу для заснаваньне беларускае нацыянальнае арганізацыйнае адзінкі ў Канадзе, якаяб аб'яднала магчыма больш лік беларусаў, раскіданых па аграмадным абшары Канады.

## ШВЭЦЫЯ.

### Новая Беларуская Арганізацыя.

У жніўні месяцы гэтага году адбыўся ў Штокгольме Зьезд беларусаў, пражываючых на абшары Швэцыі. На Зьезьдзе была заснаваная першая беларуская арганізацыя ў Швэцыі пад назовам «Беларуская грамада».

## ФРАНЦЫЯ.

### Выдавецкі фонд.

Ад жніўня г.г. заснаваўся ў Францыі Беларускі Выдавецкі Фонд з дабравольных сяброўскіх складак. Першая кніжка гэтага Выдавецтва ўжо друкуецца.

### Сяброўскія змаганьні.

Спартовая Сэкцыя беларускае моладзі пры Сындыкаце Хрысьціянскіх работнікаў у Парыжу азначыла сваю дзейнасьць на працягу лета двумя сяброўскімі змаганьнямі з украінскаю спартоваю дружынаю. Шчасьце было пераменнае.

### Шчодрая ахвяра.

Беларуская Рэлігійная Місія ў Парыжу атрымала ад студ. мастацтва М. Наўмовіча на Беларускі Стыпэндыяльны Фонд 11.000 фр. з сваіх ашчаднасьцяў. Шчырае дзякуй шчодраму ахвярадаўцу.

## ПОШУКІ.

**Шэмелеў** Міхась шукае свайго сына **Шэмелева** Андрэя нар. 1927 г. і знаёмага **Драздова** Аляксея. Пісаць на адрэс: Schemelew Michael, D.P. Camp 100, Asten b/Linz. Henirinsdorf Bar. 4—4. Oberösterreich. Oesterreich.

**Грыцука** Мікалая с. Піліпа нар. 15-8-25, які падчас вайны быў вывезены ў Нямеччыну Покэнгайм-Бадэн, шукае маці Барбара і браты Павел і Шура. Усіх, хто знае аб яго долі, просім адгукнуцца на адрэс: Guz Paul, Kufstein, D.P. Lager. Oesterreich.

**Мікуляк** Параска шукае свайго мужа **Мікуляка** Міхайла, нар. 19-5-1909 у Новастаўцах, які мае знайходзіцца ў Нямеччыне.

**Краўчук** Міхайло шукае сваю жонку **Краўчук** Ганну, нар. Курый нар. 16-5-1897 у Перэгінску.

Усіх, хто можа даць якія весткі аб Мікуляку Міхайлу і Краўчук Ганьне, просім пісаць на адрэс: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland,(20-b) Goslar / Harz, Sommer wohlenstr. 1, A.Germany. Brit. Zone.

## ПАДЗЯКА.

Адказваючы на наш заклік, злыжылі на прэсавы фонд «Божым шляхам» звыш падпіскі:

а. Фр. Чарняўскі — 1000 фр.; Віньнік С. — 700 фр.; Грышкевіч А. — 100 фр.; Мурашка Ю. — 500 фр.; Нагорны Б. — 300 фр.; Падрэз Я. — 200 фр.; Пузоўскі — 300; Урбан Я. — 700 фр.; Янкін Я. — 120 фр.

Усім ахвярадаўцам, шчырае дзякуй!

**Рэдакцыя.**

## ЗАЛАТЫЯ ДУМКІ

З беларускае народнае мудрасьці.

Калі хочаш, каб даў Бог, дык сам ня будзь плох.
Капля дзёгцю сапсуе бочку мёду.
Кінь за сабою, знойдзеш перад сабою.
Зраду прыймаюць, а зрадніка вешаюць.
На гару чацьвёра цягне, а з гары адзін сапхне.
На пахіленае дрэва й козы скачуць.
Не глядзі на сабачае брахaньне, — пабрэшуць ды назад пойдуць.
Не капай пад кім ямы, каб сам не ўваліўся.
Не спрабаваўшы гора, не пазнаеш шчасьця.
Не шчабячы салавейка у зялёным гаі, калі родная сямейка сірацее ў краі.
Ноччу кожны харошы, а пачасе кожны разумны.
Ня Божае караньне, а сваё дураваньне.
Няма роду бяз выраду.
Няма таго зла, каб на добра ня вышла.
Няма тае хаткі, каб ня было звадкі.
Няма чалавека, каб благая слава не прайшла.
Ня плюй вясьне ў рот, — пырійдзе другая ў год.
Няпраўдай сьвет пройдзеш, ды назад ня вернешся.
Ня строй жарцікаў, Бога не ашукаеш.
Ня ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца.
Ня шукай бяды, бяда сама цябе знойдзе.
Пад ляжачы камень вада не цячэ.

## ЗЬМЕСТ.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.